# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 3 (568) ГОД XII 15 СТУДЗЕНЯ 1967 г. ЦАНА 60 гр.



НА ПРЫКЛАДЗЕ САКОЛЬСКІХ ТРАДЫЦЫЙ

## КАНТРАКТАЦЫЯ

Цікавімся кантрактацыяй штораз мацней. Ад суседа да суседа разыходзіцца вестка аб магчымасці вялікага заробку з кантрактацыі. Спачатку найгаласней было аб кантрактацыі свіней. З часам аказалася, што амаль усё можна кантрактаваць. У Беластоку існуе каля д в а ц ц а ц і гандлёвых арганізацый, якія займаюцца кантрактацыяй, а іх агенты безупынна абіваюць нашы парогі, прапануючы нам і сёе, і тое...

У мінулым годзе беластоцкія ўлады запланавалі сабе, што ўдасца закантрактаваць каля 240 тысяч штук свіней, а закантрактавалі амаль трыста тысяч. Вельмі мала ў параўнанні да іншых кантрактуюць свіней гаспадары Бельскага, Гайнаўскага і Сакольскага паветаў. Калі прыгледзецца бліжэй да прычын таго, то хутка зразумеем, чаму так: малыя ўраджаі не спрыяюць свінагадоўлі, нягледзячы нават на тое, што свінагадоўцам дапамагаецца, дастаўляючы ім канцэнтраваныя кармы. Толькі спраўныя гаспадары займаюцца **больш шырокай** кантрактацыяй. Тое самае нават на Гайнаўшчыне, дзе ёсць вёскі, якія маюць землі не горшыя ад легендарнай Украіны. Калісьці бачыў я ў Сухінічах на Сакольшчыне вялікую чараду закантрактаваных свіней і задаволенага гаспадара, які паказаў мне камплект усякіх сельскагаспадарчых машын, купленых за кантрактацыйныя даходы. Гаспадарка яго сярэдняя, шмат такіх у Сухінічах, але кантрактацыяй займаецца ён адзін бадай... Іншыя зайздросцяць яму невядома чаго: ці то спраўнасці і талковай галавы, ці то грошай, якія зарабляе ён з кантрактацыі?

Беларускім паветам дадзена цяпер шмат магчымасцей рабіць добрыя грошы. І то не толькі на віхліне і лубіне, вялікая кар'ера якіх канчаецца разам з тым, як апалі цэны на іх на загранічных рынках. Зрэшты, не былі яны так зноў даходнымі: з аднаго гектара кантрактаванай віхліны зараблялася ў сярэднім каля трыццаці тысяч злотых. Тым часам адзін-два гектары закантрактаваных і добра дагледжаных трускалак можа даць і сто тысяч злотых даходу! Сакольшчына амаль не ведае, што гэта такое трускалка, хаця землі тут наогул адпаведныя для гэтай сельскагаспадарчай культуры. Мяркуецца, што за асеннезімовы сезон удасца закантрактаваць, падпісаць кантракты з гаспадарамі на пасадку трускалак не менш, чым на пяцідзесяці гектарах. Вось вёскі ў Бельскім павеце, напрыклад, Войшкі, добра ведаюць шчодрасць трускалак і іх там штогод поўныя агароды ды... фурманкі.

Альбо цукровы бурак. Калі едзеш увосень з Беластока ў Бельск, убачыш каля вёскі Гацькі цэлыя горы цукрова-

(Працяг на стар. 5)

## Жыццё БГКТ

### ПЛЁННЫ ПАЧАТАК

У канцы студзеня мінулага года адбыла сваё першае пасяджэнне **Камісія асветы Галоўнага праўлення БГКТ.** На парадку дня стаялі ў асноўным вельмі актуальныя справы, якія датычаць навучання бел. мовы ў школах: 1) **справа падручнікаў і дапамогі «Нівы» ў навучанні роднай мовы** і 2) справа **магчымасці завочнага паглыблення ведаў на вузах настаўнікамі, якія скончылі бел. філалогію настаўніцкай студыі.**

Адносна першага пункту прысутныя сцвердзілі, што справа з падручнікамі да навучання бел. мовы кепская. Многія школы абсалютна не маюць з чаго вучыць дзяцей, таму што няма падручнікаў. Гэта ў сваю чаргу прычыняецца да таго, што дзеці і бацькі не зусім добра адносяцца да гэтага прадмета. Дапамога «Нівы» (перадрук часткі падручнікаў) не вырашае справы. Вырашана звярнуцца да кураторыума, каб там апрацавалі прыкладны расклад матэрыялу на паасобныя кварталы школьнага года, які падасць да ведама «Ніва», а таксама метадычныя цэнтры. Згодна з гэтым раскладам «Ніва» будзе друкаваць урыўкі падручнікаў. Некаторыя дыскутанты падкрэслівалі, што запазненні ў друку беларускіх падручнікаў звязаны з пэўнымі недахопамі арганізацыйнага характару. Як прыклад падавалася тут, што рэдактарам бел. падручнікаў з'яўляецца выключна **адна асоба** (пані Суднік), якая зараз штатна не працуе ў выдавецтве, а ў радыё, і гэтую працу трактуе як дадатковую. На пасяджэнні быў выбраны калектыў, які будзе інтэрвеніраваць у гэтых справах у цэнтральных улад.

Другі пункт парадку дня выклікаў таксама шырокую дыскусію і многа прапаноў. Справа ў тым, што бел. філалогію ЗСН у Беластоку закончыла каля 100. абсальвентаў. Практычна яны не маюць ніякіх магчымасцей павышаць далей сваю адукацыю, бо завочнага аддзялення бел. філалогіі пры вузах няма. Патрэбы настаўнікаў з вышэйшай адукацыяй маюць значэнне і шырэйшае. Усё часцей у пачатковыя школы прыходзяць настаўнікі з вышэйшай адукацыяй, таму што таго патрабуе сучасная зрэфармаваная школа. У сувязі з тым, што ёсць у адрас ГП многа запытанняў і прапаноў у гэтай справе ад настаўнікаў і школьных інспектараў, у дыскусіі былі пададзены дзве прапановы: 1) звярнуцца да адпаведных улад, каб далі магчымасць, а перад гэтым папрасілі згоды, вучыцца завочна нашым настаўнікам бел. мовы ў БССР. Можна гэта было б зрабіць, — гаварылі некаторыя, — нават за кошт месячных курсаў, якія адбываюцца ў Мінску для настаўнікаў бел. мовы. Дыскутанты сцвярджалі, што магло б гэта быць нават апраўдана эканамічна. Безумоўна, асноўным тут было б выражэнне згоды адпаведнымі ўладамі БССР;

2) другая прапанова датычыць арганізацыі завочнага аддзялення пры кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Справа на столькі стала актуальнейшай, што цяпер кафедра мае адпаведныя кадры з патрэбнымі навуковымі ступенямі. Інфармуем аб гэтых справах і вельмі просім аб выказванні ўсіх зацікаўленых у пісьмовай або вуснай форме.

Як неабходнасць прынята прапанову, каб выступіць да кураторыума аб рэактываванне штата кіраўніка секцыі беларускай мовы пры Ваяводскім метадычным цэнтры, а таксама аб забеспячэнні педагагічных бібліятэк метадычнай літаратурай для навучання бел. мовы.

А. К.

## ЛЁС СЯМ'І ПЕРАВОЗКІНЫХ

Для мяне гэтая гісторыя пачалася ў лістападзе 1965 года. Аднойчы вечарам уключыў я радыёпрыёмнік і наставіў на Маскву. У эфіры працавала радыёстанцыя «Маяк». Пісьменніца Агнія Барто апавядала пра няшчасныя сем'і, якія паразлучала суровая вайна. І раптам знаёмыя мясцовасці: **Беласток, Заблудаў.** Недзе там засталіся дзеці адной рускай жанчыны. Я папрасіў аб больш дакладнай інфармацыі. І тады атрымаў копію ліста ад маці. Яна пісала:

«У 1941 годзе я разам са сваёй сям'ёй: мужам і сынамі — Колем, які нарадзіўся 20 снежня 1933 года і Валерыкам, які нарадзіўся 15 мая 1940 года, жыла ў мястэчку Цехановец на Беласточчыне. Муж мой Іван Перавозкін быў савецкім работнікам і нечакана памер у 1940 годзе, а я з двума дзяцьмі пражывала па-суседску з ветурачом Ксеняй Голу-




бевай. Калі пачалася вайна, эвакуіравацца прыйшлося нам канём Ксені Пятроўны, у якой была таксама маленькая дачушка. Яна сваю дачушку і маіх двух сыноў — Колю і Валерыя — пасадзіла на воз і мы рушылі ў дарогу. Толькі пад'ехалі мы да лесу, як пачалася бамбёжка. Нямецкія сцярвятнікі з кулямётаў расстрэльвалі эвакуіруючыхся жанчын і дзяцей. Мы спыніліся ў лесе і апамяталіся, што пакінулі ў Цехановцу ўсе дакументы. Ксеня Пятроўна паслала мяне па дакументы, а сама з дзецьмі асталася ля воза. Калі я вярнулася з дакументамі, дык не знайшла ўжо ні каня, ні дзяцей. Кінулася ў пошукі. Дапамагалі мне адступаючыя салдаты Савецкай Арміі. Мяне ўзялі на аўтамашыну і я даехала да нейкай вёскі, дзе ў сельсавеце нам сказалі, што канём праехала жанчына з дзяцьмі, але куды — ніхто не ведаў. Я зноў з ваеннымі часцямі пачала прабівацца бліжэй да Мінска, але нідзе іх не магла ўжо знайсці...

Вось ужо 25 год без выніку я шукаю сваіх дзяцей... Старасць прышла, а мяне ўсё мучае туга аб сваіх сынах і нічога не ведаю пра іх лёс... У мяне тлее яшчэ нейкая надзея, што яны магчыма недзе выраслі сярод добрых людзей. Гэта ж праз столькі год находзяць дзеці бацькоў і бацькі дзяцей...»

У мяне таксама затлела нейкая надзея. Гаварыў сабе: «Чалавек не іголка, без следу не згіне».

На дадатак жыхарка вёскі Сабалева ў Беластоцкім павеце Марыя Курыловіч таксама слухала перадачу радыёстанцыі «Маяк» і зараз адгукнулася на просьбу Агніі Барто. Яна між іншым напісала: «...адзін з хлопчыкаў... жыве ў Беластоку, узялі яго на выхаванне людзі, якія не маюць сваіх дзяцей, здаецца будзе гэта малодшы, старэйшага ўзялі манашкі...»

Затым «Ніва» 28 лістапада 1965 года надрукавала інфармацыю аб трагедыі сям'і Перавозкіных. Хутка ў рэдакцыю паплылі лісты і з'явіліся людзі.

Адзін з чытачоў пісаў: «Пішу ў рэдакцыю, бо непакоіць мяне некалькі ўзаемна супадаючых фактаў. Магчыма, што гэта мяне няшчасная маці столькі год шукае і за мной плача яна. Я — адзін з многіх, якім лютая вайна адабрала бацькоў і з-за якой выхоўваліся мы ў сірацінцах. Я дагэтуль не ведаю: якое я павінен мець сапраўднае прозвішча, дзе і калі я нарадзіўся, якім чынам аказаўся ў сірацінцу ў Беластоку на вул. Сітарскай, дзе прабываў да 1945 года. Мне зараз 25—29 год. Карыстаюся прыемным прозвішчам Раман Замбкоўскі і другімі выдуманымі персанальнымі дадзенымі...»

А вось урывак другога лісту: «у... наваколлі Пуньска, Сейненскага павета, ужо

(Працяг на стар. 4)



Вёска Грыбаўцы. Аб цікавым жыхары Грыбаўцоў пішам у артыкуле пад загалоўкам «Паэзія дзядзькі Васіля».

Фота Ул. Паўлючук

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

# СВЕТ

### «ДЗЕД МАРОЗ» ЖЫХАРАМ СССР

■ У 1966 годзе значна палепшыліся заработкі рабочых і служачых: у **прамысловасці на 3%**, а заработкі **вясковага насельніцтва — на 14%**. Гэта вынік не толькі высокіх ураджаяў, але і новай палітыкі ў сельскай гаспадарцы і прамысловасці.

■ У мінулым годзе **новыя кватэры атрымала** больш чым **100 тысяч сем'яў** — насельніцтва сярэдняга еўрапейскага горада. У 1967 г. «Дзед Мароз» прадбачвае **120 тысяч** перасяданняў у новыя дамы. 80% кватэр будзе змяшчацца ў вышынных будынках.

■ На Новы год «Дзед Мароз» адкрыў у Маскве дзверы найвялікшай і найбольш сучаснай у Еўропе **гасцініцы «Расія»**. Пакуль што адкрыта частка гасцініцы, рэшта будзе аддана ў карыстанне на 50-годдзе Кастрычніцкай рэвалюцыі. Гасцініца «Расія» будзе мець **3 тысячы пакояў, 6 тысяч ложкаў, 2 рэстараны** на амаль тысячу месц кожны, чайныя, кавярні і т.п., кіна-канцэртная зала на 3 тысячы чалавек.

### АМЕРЫКАНСКІЯ КАСМАНАЎТЫ

ЗША прыступілі да рэалізацыі праграмы экіпажных касмічных палётаў, якая мае закончыцца пасадкай першых амерыканскіх астранаўтаў на Месяцы яшчэ ў 60-тых гадах. Некаторыя амерыканскія спецыялісты плануюць дасягнуць гэта ўжо пад канец 1968 года.

### РАЁНЫ ГАЛЕЧЫ І ГОЛАДУ

Французскі эканаміст у сваёй кніжцы «Ідзем к голаду» падае, што **500 мільёнаў дзяцей у свеце жыве ў стане хранічнага недаядання, 35 мільёнаў людзей** (больш як зараз лічыць Польшча) **памерла ў 1965 годзе з голаду.** Інакш гаворачы, з голаду штодзённа гіне 100 тысяч людзей. Толькі 28% людзей зямнога шара атрымоўвае рэгулярна 2700 калорый, якія з'яўляюцца найніжэйшаю граніцаю сытасці. Гэтыя лікі датычаць сітуацыі ў краінах так званага Трэцяга Свету.

### ...І ВЫДАТКІ НА ЎЗБРАЕННЕ

Нягледзячы на галечу і голад вялікай колькасці чалавецтва, свет выдае на ўзбраенні больш чым **150 мільярдаў долараў.** ЗША кожны тыдзень на ўзбраенні выдаткоўваюць 1,5 мільярда долараў.

### РУБІ ПАМЁР

Замкнуліся навекі яшчэ адны вусны, якія маглі б нешта сказаць аб смерці Кенедзі. Рубі — забойца Асвальда — памёр у бальніцы. Афіцыяльна прычынай смерці быў рак. Але абаронца памершага, слаўны амерыканскі адвакат, не двухсэнсава абвінавачвае ўлады ў тым, што аблягчылі Рубі адыход з гэтага свету. Так ці інакш, але 16-ты сведка забойства прэзідэнта Кенедзі адышоў з ліку жывых. **А. К.**

# БССР

### СПОРТ

Справы спорту сталі ў цэнтры ўвагі найвышэйшых улад Беларусі. Цэнтральны Камітэт КП Беларусі і Савет Міністраў БССР абмеркавалі пытанне **«Аб мерах па далейшаму развіццю фізічнай культуры і спорту ў рэспубліцы».**

Фізкультурай і спортам займаецца каля дваццаці працэнтаў насельніцтва Беларусі, 120 беларускіх спартсменаў уваходзяць у склад зборных каманд СССР, сярод іх ёсць алімпійцы, чэмпіёны свету і Еўропы.

### БЕЛАРУСКУЮ

Цэнтральная газета «Звязда» апублікавала артыкул адказнага работніка Беларускага кнігагандлю: «Беларускую кніжку — за межы рэспублікі». Цытуецца, м. ін., выступленне дырэктара Смаленскага абласнога кнігагандлю М. Фогеля, які прымаў удзел у мінабласным аптовым кніжным кірмашы ў Мінску. Фогель адзначыў, менавіта, што яго беларускія калегі недаацанілі папулярнасці сваіх пісьменнікаў па-за Беларуссю. Такія кнігі, як «Сэрца на далоні» І. Шамякіна, «Дарогі скрыжаваліся ў Мінску» І. Новікава выдадзены вельмі малымі тыражамі. У Смаленску гэтыя кнігі былі раскуплены за два дні. Цяжка паўстрымацца тут нам, з «Нівы», каб не ўспамянуць аб вечных цяжкасцях з купляю беларускай літаратуры, з якімі амаль без вынікаў змагаюцца нашы бібліятэкі на Беласточчыне.

### НОВЫЯ

Пачалі выходзіць новыя раённыя газеты — «Серп і молат» у Лоева, «Да новых перамог» у Клецку, «Патрыёт» у Ушачы.

Апрача раённых газет, ад новага года пачалі выходзіць дзве гарадскія газеты: «Хімік» у Новаполацку і шматтыражная газета «Знамя труда» ў трэсце «Лавсанстрой».

### ГАДАВІНА

Газета «Советская Белоруссия» паведамляе, што створаны арганізацыйны камітэт па святкаванню 450-годдзя беларускага кнігадрукавання. Старшынёю камітэта з'яўляецца Кандрат Крапіва.

На радзіме беларускага першадрукара доктара Францішка Скарыны, у горадзе Полацк, адбудзецца вялікае свята кніжкі.

### ПРЭМІІ

Беларуская камсамольская газета «Чырвоная Змена» абвясціла конкурс з прэміямі для найлепшых прапагандыстаў гэтай газеты.

### УКАЗ

Міністр сацыяльнага забеспячэння Беларускай ССР Мікалай Аўхімовіч узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. **(С. Я.)**

# ПОЛЬШЧА

### ВІЗІТ

У днях ад 3 да 7 студзеня пабываў у Польшчы з афіцыяльным візітам па запрашэнню Польскага ўрада прэм'ер і міністр Замежных спраў Даніі Ота Краг. Наведаў ён нашую краіну і правёў размовы са старшынёю Рады дзяржавы, прэм'ерам урада Польшчы і першым сакратаром Цэнтральнага камітэта партыі. Размовы гэтыя Ота Краг акрэсліў на прэс-канферэнцыі, якую меў 7 студзеня ў Варшаве, як вельмі цёплыя і прыязныя. На гэтай жа канферэнцыі ён выказаўся за далейшае пашырэнне кантактаў паміж Польшчай і Даніяй, за ўрэгуляванне в'етнамскага пытання мірнымі сродкамі, за спыненне амерыканскіх бамбардзіровак Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам.

### 50 КРАІН

У XXXVI міжнародным познаньскім кірмашы (11-25 чэрвеня 1967 г.) прыме ўдзел 50 краін. Упершыню выставіць свае тавары Карэйская Народна-Дэмакратычная Рэспубліка. У Познані праводзяцца працы над разбудовай новых павільёнаў і пашырэннем выставачнай плошчы.

### НАМАГАННЕМ УСЯГО ГРАМАДСТВА

За перыяд 7-мі гадоў, у час якіх адбываліся святкаванні Тысячагоддзя польскай дзяржавы, працы насельніцтва грамадскім чынам прынеслі даход на суму каля 23 мільярдаў злотых. Пабудавана ў тым часе грамадскім чынам між іншым: больш 10 тысяч кіламетраў новых дарог, 10 тысяч кіламетраў дарог адрамантавана, збудавана каля 7 тысяч метраў новых мастоў, больш 500 кіламетраў вадаправодаў, больш 500 кіламетраў вуліц і гарадскіх дарог. У тым самым часе з Грамадскага фонду пабудовы школ пабудавана больш 2000 школьных залаў, 600 святліц і дамоў культуры і каля 2300 спартыўных аб'ектаў.

### ЛУЦЫЯНУ РУДНІЦКАМУ 85 ГАДОЎ

2 студзеня Луцыян Рудніцкі, аўтар вядомай кніжкі «Старэ і Новэ» адзначаў сваё 85-годдзе. Пажаданні юбіляру складалі кіраўнік Аддзела культуры Цэнтральнага камітэта партыі — Вінцук Краська, міністр культуры і мастацтва — Луцыян Матыка, а таксама прадстаўнікі ўлад Саюза польскіх пісьменнікаў.

### ТРАГІЧНАЯ СМЕРЦЬ ЦЫБУЛЬСКАГА

У нядзелю раніцай (8.І.1967) трагічна загінуў папулярны польскі акцёр Збігнеў Цыбульскі. У трагічны момант Цыбульскі знаходзіўся на галоўным вакзале ў Вроцлаве і хацеў ускочыць на ходзе ў ад'язджаючы ўжо экспрэсны цягнік. Скачок не ўдаўся — акцёр трапіў паміж вагонамі і ў некалькі дзесяткаў мінут пасля выпадку памёр. **Ул. П.**

# ВАЯВОДСТВА

### УРАЧЫСТАСЦІ Ў ГОНАР XXV ГАДАВІНЫ СТВАРЭННЯ ППР

На ўсёй Беласточчыне адбываюцца ўрачыстасці, звязаныя са святкаваннем XXV гадавіны стварэння Польскай рабочай партыі. Праграмы святкавання ў паасобных паветах прадбачваюць розныя формы папулярызацыі ідэйна-праграмных асноў партыі і яе гістарычнай ролі ў барацьбе за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне.

### КАНТРАКТАЦЫЯ

Ва ўсіх паветах Беласточчыны праходзяць нарады грамадска-гаспадарчага актыву, прысвечаныя абмеркаванню новых асноў кантрактацыі збожжа. Гэтыя справы будуць абмеркаваны таксама ва ўсіх вясковых арганізацыях ПАРП, а затым будуць яны тэмай агульнавясковых сходаў.

### СПРАВАЗДАЧНА-ВЫБАРНАЯ КАМПАНІЯ ЗСЛь

На Беласточчыне ў гуртках і групах ЗСЛь заканчваецца справаздачна-выбарная кампанія. У ваяводстве дзейнічае 1402 нізавыя арганізацыі Аб'яднанага стронніцтва людовага. У час справаздачна-выбарных сходаў вясковыя арганізацыі на аснове планаў развіцця вёскі выпрацоўваюць канкрэтныя планы сваёй дзейнасці.

### ФОРМЫ ДУМКІ

Пад такім загалоўкам выйшаў альманах вершаў Карэспандэнцыйнага клуба маладых пісьменнікаў пры Ваяводскім праўленні Саюза вясковай моладзі ў Беластоку. Між іншым, у альманаху публікуюцца і аўтары добра вядомыя чытачам «Нівы»: В. Швед, І. Чыквін, Я. Бурш і С. Яновіч. Апошні выступае ў альманаху ў беларускай мове і ў перакладах Э. Ярашэвіча.

### ЮБІЛЕЙНЫ ТУРНІР

8 студзеня г.г. у Беластоку адбыўся Х, юбілейны агульнапольскі турнір фехтавальшчыкаў, арганізаваны штогод беластоцкім спартыўным клубам «Ягелонія». У турніры ўзялі ўдзел усе найлепшыя шаблісты Польшчы на чале з чэмпіёнам свету Ежы Паўлоўскім. Турнір прайшоў на высокім узроўні. Перамог прадстаўнік сталічнай Варшавянкі, адзін з вядучых шаблістаў краіны, Эміль Ахыра.

### ДАРАГІ ТАВАР

Гэтым таварам з'яўляюцца беластоцкія звяры. Сёлетняшні асенне-зімовы паляўнічы сезон на Беласточчыне быў багаты. Забіта звярыны больш, чым у мінулым сезоне. А звяры з нашых лясоў высока цэняцца і пераважна ідуць на экспарт, асабліва такія звяры, як алені, сарны і дзікі. Ідуць ад нас таксама на экспарт і жывыя звяры. Першае месца займаюць тут зайцы.




NIEDZIELA, 15.I.

8.30 Politechnika TV.; 11.50 PKF; 12.00 Wiadomości dziennika; 12.10 „Czarownice" — film; 12.35 „Piórkiem i węglem"; 12.55 „I Festiwal Starych Filmów" („W starym kinie"); 14.00 „Warszawa — Moskwa" — telewizyjny mecz w akrobatyce sportowej; 15.00 Teatr Młodego Widza: „Banda Rudego" cz. III — „Rudy contra Apacze"; 15.40 „Sylfidy" — balet do muzyki F. Chopina; 16.20 „Książka, twój przyjaciel" — teleturniej; 17.0 Estrada Poetycka na 22-gą rocznicę wyzwolenia Warszawy; 17.40 „Co każdy chłopiec" — film („Wojna domowa"); 18.30 „W Polsce — roku 1966"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 Felieton literacki; 20.15 Filmowy program rozrywkowy; 20.30 „Laureat Archimedesa"; 21.05 „Niefortunna swatka" — film fab. USA; 22.45 Niedziela Sportowa.

PONIEDZIAŁEK, 16.I.

16.55 Wiadomości dziennika; 17.00 Dla dzieci: „Zaczarowany ołówek" — film; 17.10 Dla młodych widzów: „Magiczna pałeczka"; 17.30 „7 milionów młodych"; 17.45 „Goraca linia" (Katowice — Warszawa); 18.20 Kino Krótkich Filmów; 18.45 „Eureka"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Na tej ziemi" — rep. film.; 20.30 Teatr TV: „Dekret" (sztuka wyróżniona II nagrodą w konkursie na widowisko TV); 21.30 „Marszałek Branco i cywile" — rep. film. o współczesnej Brazylii; 21.45 „Na półkach księgarskich"; 21.55 Dziennik TV.

WTOREK, 17.I.

9.55 Dla szkół: (kl. IX) Język polski — P. Corneille „Cyd" („Dzieje dramatu"); 10.25 „Spotkania z Warszawą" — film dokument. pol.; 15.25 „Przysposobienie rolnicze"; 16.00 Politechnika TV; 17.00 Wiadomości dziennika; 17.05 Dla dzieci: „Zręczne ręce"; 17.20 Dla młodych widzów: „Zapraszam na wtorek wieczór" — wizyta u S. Mycielskiego, podróżnika; 17.50 „Asocjacje" — teleturniej; 18.15 Sprawozdanie sportowe; 18.50 „Próby" — miesięcznik konsumenta; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Spotkania z Warszawą" — film dokument. pol.; 21.30 „Szwedzka nowa fala" („Na wielkim ekranie"); 22.10 Dziennik TV; 22.30 Politechnika TV.

ŚRODA, 18.I.

9.55 Dla szkół: (kl. VI) „Równowaga cieczy w naczyniach połączonych"; 10.25 „Alfred Hitchcock przedstawia" — film; 12.45 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Świat atomów i cząsteczek"; 16.20 „Przypominamy, radzimy"; 16.30 PKF; 16.40 „Ten kochany aniołek" — film; 16.55 Wiadomości dziennika; 17.00 Dla dzieci: „Słoń na śniegu" — opowiadania o zwierzętach; 17.20 Dla młodych widzów: „Pisarska przygoda Marii Krüger"; 17.35 „Nie tylko dla pań"; 17.55 Wszechnica TV; 18.30 „Jej jubileuszowa mość Warszawa" — film; 18.45 „Dobry wieczór, jak minął dzień"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Alfred Hitchcock przedstawia" — film; 20.50 „Światowid"; 21.20 „Rozmówki" — mikroopera; 22.00 Kronika Kulturalna; 22.20 Dziennik TV.

CZWARTEK, 19.I.

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „Między Rzymem a Berlinem"; 10.55 Dla szkół: (kl. V) Język polski — „Jan Matejko" („Spotkania"); 16.15 TV Kurs Rolniczy: „Dobra łąka — dobre pastwisko"; 16.55 Wiadomości dziennika; 17.00 Dla dzieci: Kino Ptyś; 17.20 Informator handlowy; 17.30 „Polowanie na wieloryby" —p film radz.; 17.40 „Tramp"; 18.10 „Klub dobrych gospodarzy"; 18.55 „Tragedia Florencka" — reportaż; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Morderstwo na zlecenie" — film TV NRD; 21.00 Inauguracja Teatru Wielkiego w Łodzi. Transmisja IV aktu opery „Halka" St. Moniuszki; 22.00 „Refleksje"; 22.30 Dziennik TV.

PIĄTEK, 20.I.

11.55 Dla szkół: (kl. XI) Propedeutyka filozofii — „Współczesna rodzina"; 12.45 Dla szkół: (kl. III) „W ZOO"; 14.00 Sprawozdanie sportowe; 16.55 Wiadomości dziennika; 17.00 Dla młodych widzów: „Przewodnicząca" („Wyprawy Telewizyjnych Przyjaciół"); 17.30 „Człowiek bez ojczyzny" — film („Cienie starego zamku"); 18.05 Wszechnica TV: „Ilustracja i plakat" („Jak patrzeć na dzieło sztuki"); 18.35 „Kryptonim PL"; 19.00 „Wielokropek"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 TV Kurier Mazowiecki; 20.15 „Zakazane piosenki" — film fab. pol.; 22.05 „Poza" („Sąd koleżeński"); 22.30 „Rozmowy o książkach"; 22.40 Dziennik TV.

SOBOTA, 21.I.

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — „Włochy; 13.40 „Lenin w Szwajcarii" — film radziecki; 15.20 Dla młodych widzów: „Rysuj z nami" — zawody pionierów w rysowaniu (Budapeszt); 16.20 Program tygodnia; 16.30 „Gry i zabawy na lodzie"; 16.40 Wiadomości dziennika; 16.45 „Szczecińska Kronika Dziewcząt i Chłopców"; 17.00 Dla młodych widzów: „Konkurs 5 milionów"; 18.00 „Z włoskiego notatnika"; 18.20 „Spotkania z przyrodą"; 18.45 Tele-Echo; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.00 „Komu bije dzwon" — film fab. USA. 22.05 Dziennik TV; 22.20 Wiadomości sportowe; 22.30 Teatr Rozrywki: „Księżyc nad Bilbao".




**13 студзеня, пятніца**
15.50 «Маленькі вадалаз». Мультыплікацыйны фільм. 19.00 «Прыгоды Вернера Хольта». Мастацкі фільм. 1-ая серыя. 20.15 «Эстрада ГДР». Канцэрт.

**14 студзеня, субота**
14.10 «Гарэзлівае кацяня». Мультыплікацыйны фільм для малышоў. 15.20 «Суботні кінаэкран». 16.30 «Прыгоды Вернера Хольта». 2-ая серыя. 19.00 «Двое». Кароткаметражны фільм. 19.35 «Казкі рускага лесу». Частка першая.

**15 студзеня, нядзеля.**
9.45 «Жыў-быў зайчык». Тэлевізійная пастаноўка для малышоў. 10.05 «Пра казла». Мультфільм. 11.30 Канцэрт з Браціславы. 13.20 Усесаюзны фестываль самадзейнага мастацтва. 15.00 Конкурс песні. 17.00 Кінапанарама. 19.00 Тэлевізійны тэатр мініяцюр. 19.45 «Казкі рускага лесу». Частка другая.

# Лёнік

Лёнік быў распешчаным сыночкам хаця і прыгожым хлопцам, чым звяртаў увагу дзяўчат. Калі меў сямнаццаць год маці ўсё называла яго «нашым малым», але купіла матацыкл. Вучыцца Лёнік не захацеў, бо і нашто, калі так добра, маўляў. Хаця бацька часамі супраціўляўся яго выбрыкам, усё ж Лёнік ніколі не адчуў моцнай бацькоўскай рукі і рабіў тое, што яму спадабалася. Маці ўсімі спосабамі старалася дагадзіць сыну. Лёнік любіў папіць, пагуляць, насіў доўгія валасы, модную вопратку і ганяўся новым матацыклам.

Было Пятра і Паўла. Лёнік, а як жа, паехаў з сябрамі на фест. Там пагулялі-папілі, а на другі дзень вяртаўся дамоў. Вядома, ехаў матацыклам і «пад газам». І вось на павароце шашы як павярнуў, дык аказаўся далёка ў рове. З матацыкла асталася купа лому, а галава была пабітая. Лёніка перавязлі ў бальніцу. Маці моцна гэта перажывала. А калі вярнуўся, усё было як даўней. Лёнік далей піў і не прыходзіў дамоў па некалькі дзён. Калі людзі дапытваліся або расказвалі цікавыя рэчы аб Лёніку, Ганна не давала веры, спрачалася з суседзямі, стараючыся ўсё сцішыць.

І вось перад масленіцай Лёнік вярнуўся дамоў, з «работы», як гаварыла маці. Ганна вельмі ўзрадавалася і пачала намаўляць, каб... жаніўся. Хіба гэтым хацела абразуміць сына. Лёнік згадзіўся і абяцаў, што выканае жаданне маці. На масленіцу ў бацькавай хаце арганізаваў вечарыну. Ганне гэта не спадабалася, але чаго яна не рабіла сыну. На «забаве» хлопцы пабіліся і павыбівалі вокны. Лёнікаў бацька вельмі раззлаваўся і сказаў, што мае яго досыць. Лёнік за гэта брыдка абазваў бацьку, пагразіў і заявіў, што калі хочуць яго пазбавіцца дык ён можа пакінуць дом.

Так і зрабіў. Сабраў рэчы і пайшоў. Маці выбегла за ім на двор.
— Вярніся сынок, прабач нам. Бацька толькі ў злосці намалоў замнога, вярніся, — праз слёзы маліла яна.

Лёнік нават не азірнуўся. Ганна вярнулася ў хату. Яе штосьці падкусіла заглянуць да грошай. Грошай не было. Было ясна: Лёнік забраў дванаццаць тысяч і ўцёк.
— А згінь ты, прападзі, сабака, — несцярпела яна.

«С»
Гайнаўка

# На рэцытатарскім конкурсе

*Ліцэісты добра падрыхтаваліся да рэцытатарскага конкурсу БГКТ. Выбраныя імі творы адзначаліся багаццем і разнароднасцю мовы.*

*У вялікай зале Галоўнага праўлення найлепш сесці ззаду. Тут можна паслухаць дэкламуючых на сцэне, а таксама час ад часу зазірнуць у свае тэксты.*

*На здымку: ліцэісткі з беларускага ліцэя ў Бельску.*



# Наша пошта

**Вучаніцы сярэдняй школы ў Бельску.** — Вашае пісьмо надта не яснае. З таго, што мы зразумелі, адказваем: «Клуб ліцэіста» не вядзе перапіскі з краінамі, аб якіх пішаце ў пісьме. Газеты і журналы ЗША (на англійскай мове) можна пачытаць і купіць у Клубе міжнароднага друку і кніжкі ў Беластоку і іншых большых цэнтрах Польшчы. Апрача таго, адрасы маладых людзей, якія хочуць перапісвацца, падае месячнік «Радар».

**В. Філіпюк** — Варшава. — Твае ўспаміны друкуем без уступу, аб якім пішаш у пісьме. Думаем, што гэта не мае ніякага значэння. Пішы больш і больш працуй над літаратурным афармленнем.

# КЛУБ ліцэіста

## КРОПЛІ ДАЖДЖУ

**(Успаміны)**

Трэці дзень падае дождж. Кроплі павольна адна за другой сплываюць па шыбе. Здаецца, каб замяніцца ў кроплю дажджу, лянiва вандраваць па шыбе, сцяне, а потым скаціцца на зямлю... Ад самай раніцы не магу знайсці сабе месца. Думала двойку атрымаю ў школе, але пашчаслівілася. Званок. Першая выбегла з класа не развітаўшыся з сяброўкамі. Хутка пабегла на кватэру.

Увайшла ў свой пакой. На стале ляжала тэлеграма. Схапіўшы яе прачытала: «Прыязджай, бацька...» Пацямнела ў вачах і я абсунулася на крэсла.

Памятаю, што перад вачыма мне паказалася пасцель і ў ёй мой тата такім, якім яго бачыла ў апошні панядзелак. Тады, раненька падыйшла да яго. Узяла за жоўтую руку і прамовіла:

— Прыеду ў суботу, а цяпер спяшаю на поезд. У восем пачынаюцца ўрокі. Бывайце здаровенькі.

— Пачакай, — пачула хрыпучы голас. — На хвіліначку прысядзь. Хачу табе нешта сказаць. Дачушка! Ты ўжо дарослая. Астаецца маці, яна старэнькая ды хворая...

Тады таксама мне пацямнела ў вачах, а слёзы, як тыя кроплі дажджу, пакаціліся па твары.

«Чаму так гаворыце? Я ж абавязкова ў суботу буду і мы пабачымся», — думала я, але нешта трывожнае і цяжкае-цяжкае адчула на сэрцы.

— Я думаю, што ты яе будзеш шанаваць, — працягваў тата. — Ведай, што і ты будзеш старэнькай. Як паступіш са сваёй маці, так і дзеці твае з табою паступяць. Ніколі не павышай сябе, хай другія цябе павысяць. Працуй шчыра і сумленна, ведай, што толькі працай здабудзеш задуманае. Не забывай аб сваім гонары, аб сваёй чэснасці. Пачакай, гэта яшчэ не ўсё. Хачу расказаць таямніцу, аб якой ніхто не ведае. Гэта вельмі важнае для цябе. Паслухай...

І раптам тата аслаб, перамучыўся. Зачыніў вочы і прамовіў:

— Ідзі ўжо, а то спознішся. Раскажу, як прыедзеш у суботу.

Успаміны перарвала мая гаспадыня:
— Дзіцятка, а я за табой бегала ў школу, — ласкава прамовіла яна.
І толькі тады апрытамнела і ўсвядоміла сабе ўсю трагедыю, калі на зямлі ўбачыла тэлеграму. Слёзы, як кроплі дажджу, каціліся па твары. Мая добрая гаспадыня адвяла мяне на поезд і я паехала дамоў.

Тата ляжаў у тым самым месцы, толькі на лаве. Паволі падыйшла да яго. Не магла паверыць, што ён ужо не жыве. Вочы яго былі закрытыя, але вусны рабілі ўражанне, як бы нешта хацелі сказаць. Я моцна пачала плакаць. Мама мяне супакойвала і гаварыла, што перад смерцю тата вельмі хацеў пабачыць мяне.

Усе маміны словы заглушылі кроплі дажджу, якія моцна бубнілі ў шыбу. Цяпер, калі толькі падае дождж, заўсёды гляджу на шыбу. Прыглядаюся на кроплі, якія лянiва сплываюць. Здаецца, што толькі яны ведаюць таямніцу, аб якой ніколі не даведаюся.

**Вера Філіпюк**
(вуч. IX класа)

**ЯК ДУМАЕЦЕ АДЗНАЧАЦЬ 50-УЮ ГАДАВІНУ КАСТРЫЧНІКА?**

Напэўна ваш ліцэй, клас ці арганізацыя рыхтуецца да святкавання 50-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Вельмі нас цікавяць вашыя планы. Вельмі просім, прысылайце ў «Клуб» інфармацыі і прапановы. Цікавейшыя матэрыялы будзем друкаваць. Напамінаем, што могуць гэта быць планы ці прапановы праўленняў арганізацый або калектываў, а таксама індывідуальныя выказванні. Чакаем пісем.

**СЯБРЫ ЛІЦЭІСТЫ!**

У наш клуб прыслалі пісьмо савецкія школьнікі-камсамольцы. Поўнасцю яго перадрукоўваем і думаем, што ваша арганізацыя ЗМС і ЗМВ хутка на яго адгукнецца. Просім нас аб гэтым паведаміць.

«Мы, савецкія школьнікі, шлем Вам пажаданні ў працы і нашае сардэчнае камсамольскае прывітанне. Мы вучымся ў Свіслачанскай школе-інтэрнаце. Камсамольская арганізацыя ў нас вялікая. Нашы камсамольцы прыймаюць удзел у спаборніцтве **«Салют Кастрычніку»,** якое праводзіцца ва ўсёй нашай краіне. Мы вас вельмі просім прыслаць адрас адной з вашых школ. Будзем Вам вельмі ўдзячны.

З вялікім прывітаннем»

БССР
Гродзенская вобл.,
Свіслачскі р-н.,
Свіслач, школа-інтэрнат.
Камсоргу

**А. Баршчэўскі і В. Швед**

# Дружба і праца

**ХРЭСТАМАТЫЯ ДЛЯ VIII КЛАСА**

**ВЕКАПОМНЫЯ ДНІ**

**(Заканчэнне. Пачатак ў папярэднім нумары).**

Перастрэлка разгаралася ўсё больш і больш. Партызаны, не даючы ворагу падняцца з зямлі, паволі адпаўзалі назад. А вецер мацнеў і мацнеў. Завея круціла ўжо так, што за які дзесятак метраў цяжка было заўважыць чалавека. Асноўнай частцы партызан удалося непрыкметна адарвацца ад немцаў і падацца бліжэй да вёскі. Заслонаў сам наладжваў абарону, вызначаў пазіцыі для кулямётчыкаў, паказваў, дзе трэба размясціць меткіх стралкоў па дахах.

Харошаў паспрабаваў быў намякнуць яму, што ў гэтай сутычцы з немцамі хлопцы ж могуць абысціся і без яго, не абавязкова камандзіру брыгады ставіць сябе пад усякія выпадковасці.

— Твая праўда, Харошка. Але калі бой адбываецца пры мне, тады я ўжо не магу быць толькі гледачом. Разумееш ты гэта?

— Разумею, таварыш камандзір. Тады я прапаную, — зусім ужо ціха прагаварыў ён, — адарвацца ад немцаў, адступіць. Асаблівага сэнсу няма трымацца за іх, бо сілы ў нас куды меншыя...

— Разумная прапанова, — адказаў так жа ціха Заслонаў.

— Ажыццявім яе пазней. Цяпер нельга, бо расстраляюць у чыстым полі, як курапатак, ды і не можам мы дарогі ім адкрываць куды не трэба. Вось сцямнее крыху, тады справа іншая. І адарвемся і патыліцу ім добра намнем, а цяпер, — ужо сказаў гучна, каб усе чулі, — трымаць іх даўжэй на снезе, няхай ахаладаюць... Давай, давай, не шкадуй аганьку. Так ім, так ім, праклятым!

Бой ішоў ужо зусім блізка, каля самых гумнаў. Сям-там немцы прарываліся на гароды, імкнуліся, відаць, прабіцца да хат. У вячэрнім змроку ўжо відаць была ўспышка стрэлу. Дзесьці за лазняй прыладзіўся нямецкі кулямёт, а няспынная стужка агню мігала чырванню. Раптам поўны слуп агню ўскінуўся аглушальным выбухам ля кулямёта. Кулямёт змоўк. Праз завыванне мяцеліцы данёсся гучны выкрык Дзеткі:

— Душы іх, душы, прысмальвай!

Усміхнуўся Заслонаў. «Так, Дзетка, так, рубай іх, рубай, не давай ім спуску... Добра налаўчыўся ты, колішні змазчык, падмазваць ім пяткі, праклятым, іх жа крывёю...»

Але тут жа Заслонаў нахмурыўся. Голас Дзеткі раптам абарваўся. Там пачуліся ажыўленыя чужацкія галасы, нечы ўскрык, каманда.

— На левы фланг, Харошка! Яшчэ пару хвілін затрымацца, а тады непрыкметна і адступім.

Ужо не па-вячэрняму мігцяць, успыхваюць стрэлы. З бледна-чырвоных успышкі зрабіліся яркімі, агністымі. Вось б'е поруч кулямёт наш. Не бачыць кулямётчык, як перабягаюць немцы цэлымі групамі справа, хочуць абысці, адрэзаць.

— Ваня, Ваня, направа глядзі!

Кінуўся да яго, каб памагчы, бо нумярны ляжаў ля кулямёта, шырока раскінуўшы рукі.

— Хутчэй, хутчэй, Ваня!

А немцы лезлі і лезлі. Ці то падганялі іх эсэсаўцы, ці падганяла ледзяная завея. Ці, можа яшчэ падышла якая калона.

Нешта крыкнуў кулямётчык, ці то «спраўлюся сам», ці то «не турбуйцеся, таварыш камандзір». Кулямёт жорстка агрызнуўся, узвіхнуў сумёт перад сабой, загаварыў упэўнена, самавіта. Некаторыя гітлераўцы нібы рабілі фантастычныя выверты ў водбліскаx кулямётнага агню. Гэтыя водбліскі вырывалі з цемры празрыстыя каснікі завеі і злую замець.

— Стой! — ускрыкнуў Заслонаў, заўважыўшы, як проста на яго і на кулямёт набягае злева з добры дзесятак чорных шынялёў. — Не выйдзе! Атрымайце! — ускрыкнуў, даў адну, другую чаргу з аўтамата. Тыя пахіснуліся. Сёй-той асунуўся на снег, рэшта падалася назад. Але зноў і зноў лезуць яны, бягуць, крычаць, падганяючы адзін аднаго.

Кончыліся патроны. Няма калі дыск мяняць. Яшчэ пісталет пры запасе, — не ўзяць вам, гады, мяне, не ўзяць... А ну, налятай на гранату, праклятыя! Адну паслаў, следам за ёй і другую. Ірванула раз і другі, размяло іх ва ўсе бакі, што лезлі сюды, набягалі.

— Крышы іх, бі! — крычаў Заслонаў, сочачы за кулямётчыкам, каб не падабраліся нечакана да яго немцы збоку.

— На зямлю, таварыш камандзір! — пачуўся голас Харошава.

Азірнуўся. Толькі ўбачыў, як кінуўся той, захіляючы яго сваім целам.

«Куды ж ты, Харошка, куды ж ты, мой родны...» — думка мільганула як маланка.

Сухая аўтаматная чарга прайшла недзе блізка-блізка. Чуваць было яшчэ, як біў кулямёт, але ўсё глушэй і глушэй. Што ж гэта такое? Нібы ў нейкім казачным карагодзе, замільгалі адзін за адным чалавечыя постаці, нейкія малюнкі, падзеі. «Клянуся...» — вырвалася слова з партызанскай прысягі. Заснежаныя лясы. Барвовым зарывам разгараюцца вяршаліны дрэў. Гэта ўзрывы, узрывы... У іх водбліскаx ляцяць пад

**(Працяг на стар. 5)**

# ВЕКАПОМНЫЯ ДНІ

(Працяг са стар. 3)

адхон паравозы. І вось яны, вось — перакошаныя ад смяротнага страху бледныя, сінія твары ворагаў. Вось Кох глядзіць на яго вырачанымі ў жаху вачыма. Прымі ж, кат, кулю сваю, кару сваю, за кроў нявінных людзей, за люты здзек, за надругу... Твар Коха расплываецца і знікае... Усё цішэй і цішэй гучаць кулямёты. Усё нібы адышло, адплыло кудысьці далёка, далёка... І нібы туман залацісты апаў на зямлю, ахінуў яе. І вось усміхаюцца яму, махаюць мілымі ручаняткамі яго слаўныя галубкі, маленькія дочкі яго. Падыдзіце ж бліжэй, я аблашчу вас, прыгарну да свайго сэрца, зазірну ў вашы вочы, якія так многа, многа будуць бачыць у жыцці, усяго, пабачаць, чаго ты ўжо не ўбачыш ніколі... Бліжэй жа, бліжэй, мае ненаглядныя галубкі... Як хочацца абняць вас, прылашчыць. Ды цяжка рукі падняць. Яны прыпалі да радзімай маці-зямлі ў апошнім і вечным абдымку. І шчака прынікла да зямлі, нібы хоча выслухаць усе яе скаргі і крыўды. Холадна. Можа, гэта калючыя сняжынкі, якія шарахцяць-шарахцяць, замятаючы твой халадзеючы твар. І нічога не чуваць ужо. Усё знікае. Нікне туман залацісты. І ўсё ціха, ціха... Зусім стала ціха...

Праўда, біў яшчэ кулямёт. Біў кулямёт, і Ваня-кулямётчык прыгаворваў:

— Атрымайце, атрымайце як мае быць, душагубы!

А калі кончыліся патроны, калі змоўк кулямёт і дзесяткі чорных постацей ашалела кінуліся да кулямётчыка, тады пачуўся голас:

— Не, гэтага вы ніколі не прычакаеце! Кулямётчык не спяшаўся ў рухах. Куды спяшацца яму цяпер?

Ён спакойна намацаў рукой гранату, другую. Што ж, абедзве саслужаць апошнюю службу. Калі навалiліся ашалелай ваўчынай зграяй, прыпаў, прыцiснуўся грудзьмі да зямлі, трымаючы руку на халодным метале гранаты. Зірнуў, нібы хацеў убачыць яшчэ ўсю зямлю, увесь свет у іх бязмежнай прыгажосці, убачыць яшчэ раз, ці далёка прайшла па свеце вялікая і неўміручая чалавечая праўда. Зірнуў, нібы супакоіўся, ціха праказаў нешта сабе самому. Ці то развітаўся з сабой і са сваімі слаўнымі таварышамі? Ці то пажадаў шчасця сваім таварышам, дружбакам, усім, хто ўбачыць заўтра сонечны ўсход над зямлёй?

Сонечны ўсход...

**Міхась Лынькоў**
Урывак з рамана

1. Якія часы ілюструе раман Лынькова?
2. Ахарактарызуй постаць Заслонава і Харошава.
3. Што ведаеш аб партызанскім руху ў Беларусі і ў Польшчы?
4. Напішы працу: «Злачынствы немцаў у маёй аколіцы» на падставе размоў са старэйшымі жыхарамі вёскі.
5. Апішы ў вуснай форме бой, у якім загінуў Заслонаў.

**НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СПРАВЫ**

Пад такім загалоўкам у 50 нумары часопіса «Палітыка» за 1966 г. паявіўся артыкул Зыгмунта Станерскага. У артыкуле гэтым аўтар падае мноства прыкладаў узаемаўплываў і ўзаемапранікання дзвюх культур: польскай і літоўскай. Вось некаторыя з гэтых прыкладаў:

1. Элементы літоўскай культуры (легендарныя і гістарычныя), якія назаўсёды ўвайшлі ў польскую культуру дзякуючы творам такіх мастакоў, як Міцкевіч, Славацкі, Сянкевіч, Крашэўскі, Сыракомля, Аснык і іншыя.

2. Некалькімільённая маса палякаў літоўскага паходжання, якія паланізуючыся аказалі свой уплыў на польскую культуру (між іншым, Станіслаў Кербэдзь — будаўнічы мастоў, Кейстут Жэмайціс — рэктар акадэміі ў Кракаве. пісьменнік Яўген Паўкшта і іншыя).

3. Мноства палякаў, якія пражывалі ў Літве (асабліва ў Вільні), узбагачалі яе культуру (між іншым, Лелевель, Кшывіцкі, Снядэцкія, Арэшка і інш.)

# ПАЛЯКІ І ЛІТОЎЦЫ

Аўтар сцвярджае, што літоўцы ніколі не былі экспансіўнымі, наадварот, лёгка падаваліся асіміляцыі суседнімі нацыямі. Пры аказіі аўтар звяртае ўвагу на розніцу паміж асіміляцыяй ва ўмовах буржуазнай дзяржавы, дзе яна адбываецца пад адміністрацыйным націскам, і асіміляцыяй ва ўмовах сацыялістычнай дзяржавы, дзе яна праходзіць натуральным шляхам, не выклікаючы ў нікога пачуцця крыўды ці дыскрымінацыі.

На заканчэнне артыкула аўтар сцвярджае: «Мы не павінны забываць, што з Літвою, падобна як з Беларуссю і Украінай, спалучаюць нас доўгія культурныя сувязі, і знаёмства з імі з'яўляецца не толькі часткай навучання гісторыі і ўсведамлення сабе нашых гістарычных памылак, але таксама лепшым азнаямленнем з культурай нашага народу, які не толькі ўздзейнічаў на сваіх суседзяў, але і сам чэрпаў поўнымі жменямі з культурнага багацця Літвы, Беларусі і Украіны, бліжэйшых нашых суседзяў».

Святая праўда. З журналісцкага абавязку варта толькі звярнуць увагу на пэўныя памылковыя сфармулаванні аўтара артыкула. Аўтар сцвярджае, што Міцкевіч «любіў і высока цаніў літоўскі фальклор». Няпраўда. Міцкевіч не мог любіць літоўскага фальклору з той простай прычыны, што яго не ведаў. Ведаў тым часам і любіў беларускі фальклор, які ў той час называлі літоўскім. І яшчэ адно: невядома чаму аўтар называе беларусаў русінамі, калі паводле сучаснай, агульнапрынятай тэрміналогіі акрэсленне такое адносіцца да зусім іншых этнічных груп. (п)

# Помнік Манюшку

**(ЛІСТ З УБЕЛЯ)**

Што вялікі польскі кампазітар Станіслаў Манюшка нарадзіўся на Беларусі, непадалёк ад Мінска, у Убелі — аб гэтым можна прачытаць у кожнай энцыклапедыі. Сто гадоў, аднак, аніводзін з біёграфаў стваральніка польскай нацыянальнай оперы не заглядаў да гэтай мясцовасці. Прыйшла Кастрычніцкая рэвалюцыя, зямлю з былых вялікіх маёнткаў раздалі сялянам. Наступіў перыяд калектывізацыі, утварыліся вялікія калгасы і між іншым Убель, мясцовасць, дзе стаяў дом Манюшкі, увайшоў у склад рыбнага калгаса, які зараз мае назву «Волма».

І таму знайсці Убель было цяжка. Мае



пошукі працягваліся некалькі гадоў. Я сягнуў да шматлікіх старых крыніц, памагалі мне вайсковыя тапографы і ўрэшце год таму ўдалося мне афіцыйна лакалізаваць месца нараджэння творца «Галькі». Неадкладна пачаў я старанні аб увекавечанне гэтага месца. Тут я павінен з вялікай удзячнасцю сцвердзіць, што мая акцыя сустрэлася з агромнай прыхільнасцю беларускага Міністэрства культуры і Саюза кампазітараў Беларусі. Дзякуючы нашай супольнай акцыі сёння ў Убелі ўжо стаіць помнік кампазітару.

Нядаўна я вярнуўся з чарговага майго падарожжа ў Убель. Першыя свае крокі, зразумела, скіраваў я да помніка Манюшку. З усхваляванасцю чытаў я надпіс на беларускай і польскай мовах — аддзелены некалькімі тактамі арыі Ёнтка з оперы «Галька», аглядаў я вядомыя ўжо мне спрад года тыя месцы, дзе былі толькі руіны дома Манюшкаў, а сёння стаіць вялікапышны дву і паўметравы абеліск з умураванаю мармуроваю дошкаю, на якой чытаем: «Тут, у фальварку Убель, 5 мая 1819 года нарадзіўся вялікі польскі кампазітар СТАНІСЛАЎ МАНЮШКА».

Воддаль стаіць старая, добра вядомая з карціны Орды, якая прадстаўляе будынкі двору — тапаля. Пастаўлены тут цяпер лаўкі і альтанка. Вясною мае быць зроблены прыгожы кветнік.

Моладзь мясцовай школы напісала ліст да Саюза польскіх кампазітараў, у якім паведамляе аб сваёй ініцыятыве абняць апекай гэтае месца і просіць некалькі экспанатаў для школьнага «Кутка Манюшкі», які будзе пачаткам будучага музея.

І таму з вялікай прыемнасцю і сардэчным усхваляваннем я выканаў даверанную мне місію наведаць школу і ўручыць дары. З запасаў Варшаўскага музычнага таварыства імя Станіслава Манюшкі, Вялікага тэатра ў Варшаве, а таксама Міністэрства культуры і мастацтва і Таварыства польска-савецкай дружбы я перадаў школе вялікі партрэт кампазітара, фотакопіі рысункаў Чэслава Манюшкі, (бацькі кампазітара), якія паказваюць сцэны з жыцця яго сына, фотакопіі аўтографаў, нотаў і манюшкаўскіх выдавецтваў, здымкі з прадстаўленняў опер Манюшкі ў Вялікім тэатры ў Варшаве, пласцінкі з награнымі операмі: «Галькай», «Страшным дворам» і ўрыўкамі іншых опер.

Найбольш цэнным дадаткам да гэтых падаркаў, як сказаў настаўнік школы Сцяпан Валовік, з'яўляецца мілы, цёплы, сяброўскі ліст да моладзі, піянераў і камсамольцаў ад Варшаўскага музычнага таварыства імя Станіслава Манюшкі. Выказаў ён надзею, што ўмацаваныя кантакты будуць працягвацца.

У Мінску выпала мне на долю скласці на рукі віцэ-міністра культуры БССР Г. Г. Мачуліна падзяку ад нашых улад і культурных асяроддзяў за хуткую і прыгожую рэалізацыю ўвекавечання месца нараджэння вялікага кампазітара. Ад імя Галоўнага праўлення Таварыства польска-савецкай дружбы я ўручыў тры залатыя ганаровыя адзнакі супольна з пасведчаннямі найбольш заслужаным ініцыятарам будовы помніка.

Атрымалі іх: віцэ-міністр культуры Беларусі Г.Г. Мачулін, старшыня Мінскай ваяводскай рады нарадовай В. С. Васільеў, а таксама сакратар Саюза кампазітараў Беларусі Генрык М. Вагнер, на рукі якога перадаў я таксама пісьмо з падзякаю ад Варшаўскага музычнага таварыства.

Ітак, пачатыя некалькі год таму пошукі месца, дзе нарадзіўся і выхаваўся, дзе пачынаў свае першыя творчыя крокі і куды, будучы ўжо на вяршыні славы, Манюшка шматкратна вяртаўся — былі ўвенчаны поўным поспехам. У будучым творца «Галькі» атрымае тут таксама свой музей. Будуць таксама ў Убель час ад часу заглядаць турысты з Польшчы, любіцелі яго прыгожай і несмяротнай музыкі.

**Мар'ян Фукс**

«Асеннія сумныя дні надляцелі,
Лісты пазрывалі з чырвоных рабін.
Чорныя глебы ўвакол апусцелі.
Закончыў і працу сваю селянін.

Чаму ж ты, восен, багатых мыляеш,
Не прэшся ў харомы раскошных палат,
А толькі адну беднату абіжаеш
І лезеш ў апошні парваны халат».

— Жыццё маё было нялёгкім, — расказвае Юравец. — Зарабляць на хлеб пачаў яшчэ ў Расіі, маючы 15 гадоў, і працаваў да 1965 года. За палітычныя выступленні прыйшлося пабываць у турмах і лагерах. Стараўся аднак заўсёды па меры сваіх сіл і магчымасцей змагацца з адсталасцю, цемнатою і несправядлівасцю.

Зараз Васіль Юравец абрабляе сваю паўтарагектаравую «гаспадарку», летам ходзіць у лес па грыбы, па ягады. Сын яго працуе ў Беластоку ў друкарні, дачка замужам аж у Аструдзе. Юравец жыве, як і ўсе сяляне Грыбаўцоў, ціха і спакойна. Часам толькі, калі ў хаце паявіцца добры яго сябра, Юравец вымае тоўсты сшытак і пачынае чытаць не толькі са сшытка, колькі з памяці свае вершы.

**Ул. Паўлючук**

# КАНТРАКТАЦЫЯ

(Працяг са стар. 1)

га бурака, які звозяць сюды гаспадары з суседніх вёсак. На Сакольшчыне цукровы бурак малавядомы. Здавалася б, ён найменш патрабуе працы, прыносіць вялікія грошы... і чамусьці не квапяцца кантрактаваць яго. Нават ільну кантрактуюць больш у некаторых аколіцах, нягледзячы на тое, што гэтая расліна патрабуе значна большага ўкладу працы ў яе догляд. Традыцыя сеяння ільну моцная, і я зусім не намераны нікога адгаворваць ад кантрактацыі патрэбнага ільну. Хачу адно паказаць на гэтым прыкладзе, як часта традыцыя мацнейшая ад грашовых разлікаў і пагоні за даходнасцю. У некаторых выпадках яна выразна перашкаджае.

Хто ж да вайны не бачыў на Сакольшчыне цэлых палеткаў грэчкі! Мядовы пах палосак, цудоўны бялісты колер і пясчаны гасцінец, от, скажам, з Крынак да Плянтаў або Гуран. Цяпер там не ўбачыш грэчневых абшараў. Грэчка была знакам беднаты, бясхлебіцы, і там, дзе некалі расла грэчка — расце жытца ў каленні... Тым часам за «мэтар» кантрактаванай грэчкі плацяць 825 злотых, а за «мэтар» жыта — 300 зл., пшаніцы — 410 зл. Саромеемся сеяць, кантрактаваць грэчку, або, можа, забыліся, як даглядаць яе, на якіх землях сеяць?.. Планы паказваюць, што на Сакольшчыне павінна быць закантрактавана штонайменш паўтысячы гектараў грэчкі, а за пару год — тысяча гектараў. Іншыя паветы, якія наогул крыху багацейшыя лепшымі землямі, як Бельскі павет, могуць кантрактаваць менш гэтай тыпова беларускай расліны. Для параўнання падам планаваныя для кантрактацыі грэчкі лічбы гектараў: Бельскі пав. — 38, Гайнаўскі пав. — 89, Сямяціцкі — 279, Дуброўскі — 289, Беластоцкі павет, як сусед Сакольшчыны — 440 гектараў.

Што сталася з кантрактацыяй праслаўленай віхліны? Пакуль што кантрактацыя гэтай травы, яе насення, устрымана зусім з увагі на мізэрны збыт яе на заграпічных рынках, а таксама краёвым рынку. У Бельскім павеце кантрактацыя віхліны будзе адноўлена аж у 1970 годзе, магчыма, крыху раней. Двум найбяднейшым з найбяднейшых — паветам Сакольскаму і Беластоцкаму дазволена правесці кантрактацыю віхліны па 25—30 гектараў. Разам з тым значна зніжана цану на яе. Штосьці падобнае і з кантрактацыяй лубіну, хаця ён мае яшчэ пакуль што даволі значны попыт на рынках і яго кантрактацыя праўдападобна не будзе ўстрымана. Справа ў тым, што кантрактацыя тых культур, якія страцілі попыт на рынках, устрымоўваецца або змяншаецца адміністрацыйнымі наказамі, каб не траціць надарэмна сіл, сродкаў, часу і зямлі на іх вырошчванне. Кантрактацыя збожжавых культур, грэчкі, ільну або жывёлы заўсёды патрэбная, заўсёды замала маем яе, заўсёды найменшая рызыка пры доглядзе іх і пэўны даход. Кожны «мэтар» збожжа нам важны, бо не хапае яго, бо за кожную тону прывезеную з заграніцы мусім плаціць доларамі — па 80 і больш долараў. Гандлёвыя арганізацыі заўсёды ахвотна перавыконваюць планы кантрактацыі, бо гэта не віхліна, на якую зусім не маюць збыту...

Вось так выглядаюць з большага некаторыя кантрактацыйныя справы, якія спісаў я пад развагу вечаровых гутарак.

**Кастусь Янкоўскі**

# БЫЛО ГЭТА...

*40 ГОД НАЗАД*

*У ноч з 14 на 15 студзеня 1927 г. па ўсёй Заходняй Беларусі палітычная паліцыя правяла масавыя арышты грамадоўцаў і членаў КПЗБ. Паліцыя схапіла ўсіх кіраўнікоў Беларускай сялянска-работніцкай грамады, павятовы актыў і найбольш дзейных актывістаў мясцовых гурткоў. Усяго было арыштавана 850 грамадоўскіх дзеячоў. Разам з пасламі-грамадоўцамі Б. Тарашкевічам, С. Рак-Міхайлоўскім, П. Валошынам, П. Мятлой быў арыштаваны адзін з кіраўнікоў Незалежнай сялянскай партыі Фелікс Галавач.*

ЧВЭРЦЬ СТАГОДДЗЯ НАЗАД

*13 студзеня 1942 года на канферэнцыі прадстаўнікоў саюзных дзяржаў у Лондане была прынята дэкларацыя аб пакаранні ваенных злачынцаў.*

* ✲ *

*14 студзеня 1942 г. закончыліся перагаворы прэзідэнта ЗША Ф. Д. Рузвельта з прэм'ер-міністрам Вялікабрытаніі У. Чэрчылем аб стратэгіі ў барацьбе супраць дзяржаў «восі». Канферэнцыя гэта, якая праходзіла ў Вашынгтоне ад 24 снежня 1941 г. і насіла крыптанім «Аркадзія», між іншым, распрацавала планы дэсантных аперацый у Паўночнай Афрыцы на весну 1942 г. Таксама ў час прабывання Чэрчыля ў Вашынгтоне 1 студзеня 1942 г. была падпісана так званая «Дэкларацыя 26 дзяржаў». СССР, ЗША, Англія, Кітай і іншыя дзяржавы, якія падпісалі дэкларацыю, забавязаліся, па-першае, выкарыстаць усе ваенныя і эканамічныя рэсурсы для барацьбы супраць фашысцкіх дзяржаў і, па-другое, не заключаць з імі сепаратнага перамір'я або міру. Дзяржавы, якія падпісалі дэкларацыю, і дзяржавы, якія потым далучыліся да яе, атрымалі назву «Аб'яднаныя Нацыі».*

* ✲ *

*15 студзеня 1942 г. Польская Рабочая партыя абнародавала адозву «Да рабочых, сялян і інтэлігенцыі, да ўсіх польскіх патрыётаў», у якой накрэсліла праграму сацыяльных пераўтварэнняў у Польшчы і барацьбы з акупантам, аснованай на нацыянальным фронце і саюзе з СССР.*



### ПЕРАГРУЗКА

Да адлеглых раёнаў Якуціі цяжка даехаць. Рэгулярную камунікацыю з гэтымі раёнамі ўтрымоўвае «Аэрафлот». Самалёт АН-2 апускаецца на спецыяльна падрыхтаванай пляцоўцы, дзе чакаюць яго прадстаўнікі калхозаў, якія займаюцца гадоўляй паўночных аленяў, а таксама прадстаўнікі пунктаў скупу футраў.

### КАРОТКІЯ ПАРАДЫ

Калі на паліраванай паверхні ўтварылася белая пляма ад гарачага чайніка або шклянкі з гарбатай, яе можна лёгка зняць сумессю спірту з алеем. Пляму праціраем змочанай у сумесі шарсцяной анучкай кругавымі рухамі, пакуль не знікне.

Пры гатаванні капусты да ўнутранага боку накрыўкі чыстай анучкай прымацуйце кавалак чорнага хлеба — непрыемны пах не будзе распаўсюджвацца па ўсёй кватэры.

Каб мяса, якое смажыцца, было больш мяккім, папярэдне яго трэба змазаць алеем, а затым смажыць у масле або тлушчы.

(а-лів)

## ЗЯЛЁНАЯ ЛІХАРАДКА

Ізумруд — каштоўны камень, які блішчыць тысячамі зялёных іскраў. Некалькі месяцаў таму назад я пачуў аб адкрыцці ізумрудных жыл у недаступных калумбійскіх джунглях, непадалёку мястэчка Пена-Бланка. Там, дзе яшчэ ўчора былі джунглі, стаяць пахілыя буды і хаціны. Уся прастора паміж імі кішыць мужчынамі, жанчынамі, дзяцьмі. Валэндаюцца худыя мулы, на зямлі поўна іржавых кансервавых банак і смецця. Усюды магілы...

Людзі тут галадалі. Харчы даўно кончыліся, а грошай на новыя запасы не было...

Вакол шукальнікаў ізумрудаў круціліся цёмныя тыпы і гешэфцёры, кантрабандысты, гандлюючыя зброяй і дынамітам, скупшчыкі каштоўных каменняў і гандляры прадуктамі, якія прадаюць за каласальныя сумы грошай або... за ізумруды. Зварочвала на сябе ўвагу энергічная кухарка, у якой невялікую порцыю падазронага супу можна купіць за ізумруды. Яна належала да самых багатых асоб у гэтым дзіўным лагеры.

Калумбійскі ўрад ужо даўно манапалізаваў здабычу ізумрудаў на адзіным (да адкрыцця Пена-Бланка) ізумрудным полі ў Мусо. У сучасны момант урад збіраецца манапалізаваць і Пена-Бланку. Але шукальнікі ізумрудаў у Пена-Бланка не намераны адмаўляцца ад магчымасці разбагацець за адну мінуту, за тую мінуту, калі знойдзе ў шчаслівым месцы каштоўныя ізумруды. Таму яны застрэлілі першых салдатаў, прысланых урадам. Тады пачалася блакада ізумруднай джунглі каля Пена-Бланка. Кардон салдатаў акружыў лагер і аколіцу. Збунтаваныя шукальнікі пастаўлены перад выбарам свайго лёсу: або памерці з голаду, або пакінуць ізумрудную джунглю.

Аднак калумбійскі ўрад не дацаніў сілу «зялёнай ліхарадкі», якая прывяла гэтых людзей у дзікую джунглю за пошукамі багацця. Кантрабандысты пачалі дастаўляць харчы, а скрозь джунглю, паміж пастамі ўрадавых войскаў, пракрадаліся ў Пена-Бланка сотні людзей, аматараў разбагацець на ізумрудных знаходках. Сарганізавана ўнутраную ахову, якая абараняе шукальнікаў ад нападаў салдат. Кожны тыдзень па чатырох чалавек ад кожнай брыгады шукальнікаў са зброяй у руках сцеражэ лагера. У непраходных гушчарах джунглі разгараецца ўпартая вайна.

У канцы канцоў і я адчуў першыя знакі «зялёнай ліхарадкі». Пад час свайго двухмесячнага знаходжання ў лагеры думка аб магчымасці імгненнага ўзбагачэння ўсё мацней ахоплівала мяне. Я працаваў у адной брыгадзе і на маю долю спачатку прыходзілася ўсяго невялікая жменька малюткіх каменьчыкаў ізумруду. Але пад канец майго знаходжання ў лагеры адзін з членаў нашай брыгады, Роберт, напаткаў ізумруднае гняздо-жылу. Былі гэта вялікія каменні ізумруду! Мы разбагацелі. Кожны з нас насіў на шыі ў скураным мяшочку свае скарбы. З той мінуты, як у маім мяшочку паявіліся каштоўныя каменні, я зразумеў, што такое страх. Я баяўся, што ноччу мяне абрабуюць, і таму амаль зусім не спаў. Я баяўся ўсяго і ўсіх, не выпускаў з рук пісталета, падазраваў нават сумленных людзей, з якімі я паспеў тут пасябраваць. Цяпер і я стаў ахвяраю «Зялёнай ліхарадкі, ізумруднай ліхарадкі». У маёй галаве гучалі толькі словы «шукай, яшчэ шукай!»

Пасля двух тыдняў ліхарадкавых пошукаў у мяне паявіліся сімптомы launch ператомленасці. Я зразумеў, што страчу тут розум, калі не жыццё. Я пастанавіў уцякаць з Пена-Бланка. Але ўцячы было нялёгка. Лагер быў акружаны бандытамі, гатовымі падрэзаць горла кожнаму, у каго ёсць ізумруды. У канцы канцоў мне ўдалося далучыцца да групы кантрабандыстаў, і вось я зноў у сталічным горадзе Багота, цэлы і здаровы.

Ізумруды Пена-Бланка — гэта не фантазія, яны там ёсць, ёсць многа. Але ёсць таксама і бандыты, і салдаты, якія акружылі лагер шукальнікаў. Ядавітыя змеі і маскіты стараюцца не горш ад іх у пасеве смерці. Але самае страшнае з усяго — гэта «зялёная ліхарадка», якая нясе смерць і цярпенні ўсім.

(З замежнага друку)



## Фотааб'ектывам па Беларускай ССР



*Карагод «Рэчанька» ў выкананні самадзейнага ансамбля песні і танца калгаса «Слава працы» Дзятлаўскага раёна, Гродзенскай вобласці.*




* ✲ *

У Панятоў, горад, куды, паводле наяўных у польскай контрразведкі даных, павінен прабрацца шпіён, прыязджае Вольскі. Ён забяспечан дакументамі паручыка запасу, выкліканага на зборы. Для таго, каб замаскіраваць сваю сапраўдную работу, Вольскі разыгрывае гэткага прыстойнага, але няздольнага да ваеннай службы малога. Роля ўдаецца яму, і неўзабаве капітан Свабода, непасрэдны начальнік Вольскага па зборах, пераконваецца, што яго новы падначалены «зорак з неба не хапае». Вольскі задаволен — ён бярэцца за сваю карпатлівую і складаную работу.

* ✲ *

**У той дзень вечарам прадаўшчыца «Магазіна розных тавараў» з цяжкасцю паспявала выконваць заказы. Кожную пятніцу ў Панятове праходзіў кірмаш. Сяляне з навакольных вёсак пасля ўладкавання ўсіх сваіх спраў звычайна карысталіся паслугамі «Магазіна розных тавараў», купляючы там усё неабходнае.**

**За двума столікамі, што стаялі ля сцяны, сядзела некалькі работнікаў гарадскога гандлю мясам са Шчэціна.**

**У магазін увайшоў немалады з сівізной падпаручык і пачаў прабірацца да стойкі.**

**Купіўшы некалькі пачак папярос, афіцэр пайшоў да выхаду. Раптам адзін пачак папярос выпаў у яго з рук. Афіцэр хутка сабраў рассыпаныя папяросы і выйшаў. Ніхто не звярнуў на яго ўвагі, акрамя нізенькага чалавечка, што сядзеў за столікам у кутку. Калі афіцэр знік за дзвярыма, гэты чалавек устаў і праз мінуту выйшаў з магазіна.**

**— Пан паручык! Вы не з Вроцлава? — спытаў ён ціха.**

**Афіцэр спыніўся і акінуў яго хуткім позіркам.**

**— Не, з Ржэшава, — флегматычна адказаў ён.**

**— Я ўжо вас бачыў на кірмашы ў Познані, — дадаў незнаёмец.**

**Афіцэр з трывогай азірнуўся ва ўсе бакі.**

**— Не раю прысылаць ніякіх пісьмаў, — сказаў афіцэр.**

**— Я вымушан быў, — шапнуў незнаёмец.**

**— Даўно вы ўжо тут?**

**— Тыдзень.**

**— Дзе?**

**— У Шчэціне. Добрая кватэра. Акрамя таго, я працую ўжо.**

**— Перакідка?**

**— Так, морам.**

**— Цяпер у мяне нічога няма. Сачу... — шаптаў афіцэр. — Ведаю, што ў зоне знаходзіцца некалькі дзесяткаў ракетных батарэй, але гэта яшчэ не ўсё.**

**— Што я павінен перадаць?**

**— Цяпер нічога. Першыя даныя будуць не раней, чым праз два тыдні.**

**— Як так? — з націскам спытаў незнаёмец. — За шэсць тыдняў усё павінна быць закончана. Мы ж не паспеем!**

**Падпаручык махнуў рукою і з трывогай азірнуўся.**

**— Мы не можам тут сустракацца, — ціха сказаў ён. — Наступная сустрэча ў нядзелю, у чатыры гадзіны папоўдні, рэстаран «Грыф» у Шчэціне. Мы абмяркуем астатнія падрабязнасці. А цяпер ідзіце!**

**Разышліся, не развітаўшыся. Маленькі чалавек вярнуўся ў магазін і сеў за свой столік.**

**— За ваша здароўе! — сказаў ён, звяртаючыся да сваіх кампаньёнаў, і падняў бакал.**

* ✲ *

Першыя назіранні Вольскага і яго спробы ўстанавіць, хто ж з афіцэраў ці служачых палка таямнічы «Г-20», не прыводзяць пакуль да станоўчых вынікаў. А між іншым гэты самы «Г-20» кожны дзень сустракаецца з Вольскім, наведвае тую ж сталоўку, слухае тыя ж лекцыі, як і Вольскі. «Г-20» з'явіўся ў Панятове ў якасці афіцэра запасу, які выклікан на курсы перападрыхтоўкі.

«Г-20» у час акупацыі выслужваўся даносамі перад карычневай паліцыяй. Пасля вайны выехаўшы ў месца, дзе яго ніхто не ведаў, «Г-20» скончыў механічны факультэт і ўладкаваўся працаваць на прадпрыемства, якое мае абароннае значэнне. Вось тады ім і зацікавілася разведка ФРГ. «Г-20» доўга ўгаворваць не давялося: закляты вораг дэмакратычнай Польшчы, які гатовы на ўсё дзеля грошай, «Г-20» пачаў служыць сваім новым гаспадарам не за страх, а за сумленне.

(Працяг будзе)

# ТРЫБУНА чытачоў

## КВАЛІФІКАВАНЫЯ ЗЕМЛЯРОБЫ

У 1963 годзе моладзь вёскі Альхоўка (Гайнаўскі павет) арганізавала ў сябе калектыў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі I ступені, у які запісалася 19 асоб. Праз 3 гады пад кіраўніцтвам Сяргея Раманьчука і перадавіка Юркі Скепкі моладзь праводзіла заняткі, паглыбляючы свае веды з галіны сельскай гаспадаркі.

Як тэарэтычныя, так і практычныя заняткі на сваіх палетках удзельнікі калектыва праводзілі паспяхова. За гэта ад павятовых улад атрымоўвалі ўзнагароды, а ў 1965 годзе атрымалі тэлевізар, які яшчэ больш заахвоціў да далейшай працы і адначасова дапамагаў у самаадукацыі.

Вынікам гэтай трохгадовай плённай працы альхоўскай моладзі ў калектыве сельскагаспадарчай падрыхтоўкі быў 4.XII.66 г. дзяржаўны экзамен. Выпаў ён даволі добра. Усе ўдзельнікі атрымаюць пасведчанні кваліфікаванага земляроба. Некаторыя члены калектыва думаюць і ў далейшым прадаўжаць вучобу шляхам самаадукацыі, і таму плануюць паступіць у скарочаны карэспандэнцыйны сельскагаспадарчы тэхнікум.

**Юрка Скепка**
Альхоўка

## КЛУБ У КЛЕНІКАХ

Многа год моладзь у вялікай вёсцы Кленікі, Гайнаўскага павета, не мела дзе падзецца вечарам. У вёсцы былі толькі месцы ігры ў карты і... каб выпіць большую чарку. Шматлікія просьбы і пытанні аб святліцы нічога не змянялі. Жыхары вёскі звярнуліся да радных, якія з'яўляюцца іх прадстаўнікамі ў грамадскай і павятовай радах. І вось, дзякуючы ім, Кленікі атрымалі клуб-кавярню маладога селяніна. Культурна-асветнай працай кіруе тут добра рада клуба. На яе чале стаіць член грамадскага камітэта ПАРП Сцяпан Кот, а яго намеснікам з'яўляецца фельчар Яўген Краўчук. Трэба адзначыць, што кожны дзень у клубе ўсе месцы занятыя. Планы дзейнасці шырокія: лекцыі, сустрэчы з дзеячамі і паэтамі, кінакарціны, прэса і турніры ў шашкі і ў шахматы. Асабліва цікавымі будуць курсы «Пшыспособеня спулдзельчэго». На гэты курс запісалася 12 асоб. Варта адзначыць, што адказнай за дзейнасць клуба з'яўляецца член БГКТ Зіна Шэшка.

**Аляксандр Закройшчык**
Кленікі

## СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫ ГУРТОК У РЭПІСКАХ

Сельскагаспадарчы гурток у Рэпісках існуе тры гады і налічвае 20 членаў. Як заявіў прэзас Мікалай Варонка і скарбнік Васіль Федарук, у 1966 г. дабіліся 10.000 зл. чыстага даходу. Сельгасгурток да гэтага часу мае 4 сеўнікі, малацільны агрэгат, а таксама апырсквальнік «Ольза». У 1967 г. сельгасгурток у Рэпісках атрымае два трактары з камплектамі машын.

**Міша Тэлешэўскі**
вёска Рэпіска

## ГУРТОК

16 снежня м.г. у вёсцы Тапаркі быў арганізаваны гурток БГКТ. Арганізатарамі яго былі светліцовыя з Дубіч-Царкоўных Валя Хілімонюк і кіраўнік кіно Іван Корх, якія наведалі вёску. У новы гурток запісалася 11 дзяўчат і хлопцаў. Старшынёю выбраны малады хлапец Аляксей Цетра, скарбнікам — Анна Вевюрка. Праўленне забавязалася ў хуткім часе разлічыцца са складчынамі і часцей праводзіць культурныя вечары ў сваёй святліцы, а таксама арганізаваць аматарскі калектыў.

**Мікалай Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

## СЛОВА АБ ПЛЯНТАЎСКІХ ЖАНЧЫНАХ

Гурток вясковых гаспадынь у Плянце (Гайнаўскі павет) у 1965 годзе галоўны напрамак вызначыў на гадоўлю курэй. Жанчыны штогод купляюць куранят у Бельску-Падляшскім. Бяруць яны і непасрэдны ўдзел у працы сельскагаспадарчага гуртка. Жанчыны ў мінулым годзе арганізавалі ў сябе курсы гатавання і пячэння, а ў 1967 годзе адбудзецца курс мясных вырабаў. Яны таксама ўдзельнічалі ў конкурсе на найлепшы агарод з агароднінай. Дзякуючы супольным намаганням жанчын і сельскагаспадарчага гуртка ў Плянце пабудавана злеўня малака. У 1966 годзе купілі яны шаткаўніцу, сокавыжымачку да фруктаў і некаторыя касметычныя прылады да валос, якімі карыстаюцца ўсе жанчыны. Гурток налічвае 32 асобы.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

## ПАСЫНКІ НА ПЕРШЫМ МЕСЦЫ

Ужо ўсім вядома, што вёска Пасынкі Бельскага павета прыступіла да конкурсу за найчысцейшую вёску ў павеце і заняла першае месца. Камісія конкурсу прызнала грашовую ўзнагароду ў суме 50 тысяч злотых. Пасынкі прыступілі і да ваяводскага конкурсу, у якім брала ўдзел 99 вёсак. У ваяводскім конкурсе таксама занялі першае месца і атрымалі 70 тысяч зл., што ў суме дало 120 тысяч злотых. Напэўна многім вёскам, якія прымалі ўдзел у конкурсе, зайздросна. Аднак не так лёгка прыйшлося заняць першае месца. Жыхарам вёскі трэба было многа патрудзіцца. Яны трымалі ў парадку і чысціні свае сялібы. Падвязлі 1660 м³ зямлі пад ходнікі, улажылі іх і абрукавалі абапал. Пасадзілі 419 ліпак пры вуліцы. Зрабілі 3 масткі. Пры новай краме і злеўні малака жыхары вёскі навязлі 700 м³ зямлі. Упарадкавалі агароджу пры вуліцы даўжынёй 850 метраў і выканалі многа іншых прац. Кошт работ аблічана больш як на 250 тыс. зл. Жыхары Пасынак вельмі часта працавалі ў святочныя дні і вечарамі пры асветленай вуліцы. Найбольшы ўклад у працу вёскі ўнёс старшыня ГРН М. Весялоўскі.

**В. В.**
Пасынкі

## НОВАЕ ПАМЯШКАННЕ

У Шудзялаве (Сакольскі павет) да гэтай пары пошта была ў цеснай вясковай хаце. Нядаўна пошта перанесена ў новы будынак, які пабудаваў Баляслаў Рэцька і дастасаваў яго да патрэб гэтай установы.

**А. С.**
Шудзялава

## СВЯТЛІЦА ПАТРАБУЕ АПЕКІ

У Кнарыдах (Бельскі павет) стаіць прыгожы, вялікі будынак святліцы. Тут час ад часу арганізуюцца танцавальныя вечарыны, збіраюцца людзі на сходы. Гэта ўсё адбываецца летам. Зімою святліца стаіць пустою. Ніхто ў яе не загляне. Каму ж хочацца там мерзнуць? Толькі калі прыедзе кінаперасоўка, прыходзяць сюды людзі. І то на першы сеанс. Пасля большая колькасць гледачоў уцякае. Холадна. Усё мерзне. А печ стаіць, чакае, каб нехта заглянуў да яе. Няма каму. Ды чым паліць?

У Кнарыдах ёсць васьмігадовая школа. Апошнім часам атрымала тэлевізар. Тут і адбываюцца ўсе сходы. Адбываецца таксама ў школе сельскагаспадарчае навучанне. Кіраўніцтва школы не вельмі ахвотна глядзіць на ўсё гэта. Навошта лішні клопат? Але не пасмее кіраўнік адмовіцца. Усё ж-такі свае людзі. Навошта маюць мерзнуць у святліцы. Няхай лепш пасядзяць у цёплай школе. А святліца, якая толькі выключна прызначана да ўсяляк іх сходаў, стаіць нявыкарыстанай. Чаму так дзеецца ў Кнарыдах? Людзі ў іншых вёсках дабіваюцца маленькага куточка на святліцу, укладаюць вялікі ўклад грошай, не шкадуюць працы, каб толькі мець свой уласны будынак. А тут наадварот.

Калі праязджаю каля кнарыдаўскай святліцы, сэрца заўсёды напаўняецца сумам і закідамі да жыхароў вёскі, а перад усім да моладзі, да праўлення гуртка ЗМВ. Як можна пакінуць такі будынак без апекі? Давясці да таго, каб солтыс быў прыбіральшчыцай? Гэта вялікі сорам моладзі. А што на гэта павятовае праўленне Саюза вясковай моладзі ў Бельску? Ці не ведае яно аб сітуацыі, якая стварылася ў Кнарыдах? Чаму не цікавіцца працай сваіх гурткоў? Дзіўна гэта ўсё выглядае. Дзіўнейшым стаецца яшчэ тое, што не адзіны гэта выпадак. Ёсць і іншыя вёскі, у якіх святліцы чакаюць людзей. Чакаюць нейкай пашаны хоць бы да сваёй назвы.

**Мацейка**

## МІХАЛОЎСКІ КАВАЛЬ

У недалёкім мінулым у Міхалове было ўсяго толькі два кавалі, а ў многіх вёсках ані аднаго.

На радасць сялянам малады чалавек Янка Чабан з далёкай Цісоўкі, што на Гайнаўшчыне, пачаў у Міхалове будаваць кузню.

З недаверам адносіліся да яго старыя кавалі і не спадзяваліся, што будзе ён для іх канкурэнтам у даходным рамястве. Але так сталася. Янка Чабан праявіў сябе здольным кавалём. Ніхто так, як ён, не паставіць добра гарт сякеры, малатка, бабкі да кляпання кос. Ніхто так добра не наладзіць плуг або падкуе каня. Працу сваю выконвае хутка, зграбна і моцна.

Усім вядома, што палахлівага маладога каня першы раз падкаваць вельмі цяжка. Кавалі ў такіх выпадках хутка нервуюцца, крычаць, валяць палахліўцаў малатком па рэбрах. І гэта яшчэ больш ускладняе каванне. А Янка спакойна, ласкава падыходзіць да такога палахлівага коніка, і яму не здарылася, каб не ўдалося падкаваць такога дзікуна.

У час зімовай слізгавіцы ў Янкі каля кузні дзень у дзень стаіць чарга коней. Не бяда, што зімовы дзень малы. Кузня і панадворак Янкі асветлены электрычным святлом і ён працуе да позняга вечара. Моцны і адначасова сціплы Янка Чабан, нястомны ў працы. А нястомны ў працы мо і таму, што найдаражэйшае за ўсё для яго пашана, якую ён заслужыў у людзей шырокай ваколіцы.

**Міхась Красоўскі**
Малынка

## АХОЎВАЦЬ ПРЫРОДУ

Прырода наша слаўная. Прыгожая Белавежская пушча з яе запаведнікам, прыгожыя нашы лясы і бары. Патрабуюць яны разам з іх багатымі заалагічнымі жыхарамі цёплай ласкі чалавека. Змрочныя гады акупацыі нанеслі вялікую страту нашай прыродзе. У сённяшні час некаторыя са звяроў, як зубр, лось, бобр і другія, асталіся як экземпляры нашай прыроды. Але не абаранілі б самыя законы нашай дзяржавы. Да гэтага яшчэ патрэбна сумленне чалавека. Гэтыя справы менавіта і абмяркоўваліся на павятовым з'ездзе Лігі аховы прыроды ў Бельску. З праграмай далейшай дзейнасці гурткоў аховы прыроды пазнаёміў прысутных таварыш Мікалай Якубюк — падінспектар бельскага аддзела асветы. Ад імя асветніцкіх улад ён звярнуўся да прысутных настаўнікаў, каб і ў сваіх школах арганізавалі гурткі аховы прыроды і ўключыліся ў сумленную працу. Цікавым і ахвотным работа знойдзецца. З'езд паставіў задачу распрацаваць метады дзейнасці, пашырыць колькасць школьных гурткоў, уключаючы іх дзейнасць у працу дружын гарцэраў, арганізаваць новыя гурткі сярод працаўнікоў аховы лесу, паляўнічых і ўсюды там, дзе будуць любіцелі прыроды. Дзейнасць усіх відаў гурткоў павінна ісці ў напрамку аховы прыроды, прыроды як помнікаў нашай гісторыі і як багацця нашага народа.

**К. С.**
Катлы




Дарагое Сэрцайка!

Маю 17 год. Жыву на вёсцы. На забаве ў нашай вёсцы я пазнаёмілася з Жоркам. Жорка цяпер адбывае вайсковую службу. Жоржык мне вельмі спадабаўся і я яму таксама. Калі мы былі ўдваіх, ён прызнаўся мне ў каханні. Адводзіў таксама мяне дамоў. Па дарозе ён цалаваў мяне і гаварыў, што калі прыйдзе з войска, дык ажэніцца са мною. Жоржык часта прыязджаў у водпуск. Тады заўсёды прыязджаў да мяне. Цяпер я адчуваю сябе цяжарнай. Жыццё стала сумнае. Нядаўна я пазнаёмілася са Сцёпам, які мне лепш спадабаўся ад Жоркі. Сцёпа прыязджае да мяне вельмі часта і гаворыць, каб хутчэй жаніцца. Парай, Сэрцайка, што рабіць, ці чакаць Жоржыка, ці выходзіць замуж за Сцёпу. Чакаю парады.

**Таня з Гайнаўшчыны**

Дарагая Таня!

У тваіх гадах яшчэ наогул не трэба думаць аб замужастве. Аднак у тваім выпадку ўжо трэба падумаць ўсур'ёз і паступаць сур'ёзна, а не так лёгкадумна, як ты. Пішаш, што ты цяжарная і гэта дзіця Жорыка. Дык чаму ж ты сустракаешся са Сцёпам? Хіба толькі таму, каб больш яшчэ завясці ў цяжкую сітуацыю. Ты як найхутчэй павінна забараніць Сцёпу прыязджаць да сябе і наогул не дружыць з ніякім хлопцам. Павінна аб гэтым прызнацца бацькам і паведаміць Жорыка. Толькі старайся, каб Жорык не даведаўся аб тым, што сустракалася са Сцёпам, бо хоць ты ўпэўнена, што гэта дзіця Жорыка (пішаш, што была ўжо цяжарная, калі пазнаёмілася са Сцёпам), ён аднак можа думаць інакш. А аб Сцёпе забудзь, бо калі нават ён ажэніцца з табой і па шлюбе пераканаецца, што ты цяжарная з другім, напэўна добрага ты ўжо ў жыцці з ім не зазнаеш. Не ведаю толькі, чаму ты так лёгкадумна паступаеш і думаеш. Тваё пісьмо павінна быць перасцярогай для іншых маладых дзяўчат.

**Сэрцайка**

# КІНО

на 17—22.I.1967 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Skrytobójcy" (NRD), 17—18. „Samotna" (radz.), 19—20. „Potem nastąpi cisza" (polski), 21—22.

**Кляшчэлі**
„Spotkanie z Warszawą" (polski), 17—18. „Krolowa Krystyna" (USA), 19—20. „Trzy kroki po ziemi" (polski). 21—22.

**Дубіны**
„Pierwszy dzień mego syna" (czeski), „Wierność" (radz.) 21—22.

**Нарва**
„Dom z facjatą" (radz.) „Grzeszny anioł" (radz.), 18—22.

**Нараўка**
„Dzielnica szczęścia" (rumuński), „Pozegnania" (polski), 21—22.

**Чыжы**
„Pan Marszałek i ja" (NRF), „Rodzaj miłości" (angl.), 18—22

**Дубічы Царкоўныя**
„Pociąg na tyły" (radz.), „Macario" (meksykański), 18—22.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Obok prawdy" (polski), „Podróż nie z tej ziemi" (jugosł.), 18—22.

**Орля**
„Najdroższa" (radz.), „Operacja Y" (radz.), 18—22.

**Райск**
„Karambol" (węgierski), „Romans z nieznajomym" (USA), 18—22.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Mój stary" (polski), 17—18. „Trema" (USA), 19—20.

**Міхалова**
„Długość pocałunku 90" (czeski), 17—18. „Winnetou" I s. (NRF), 19—20. „Winnetou" II s. (NRF), 21—22.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Nikt śmiać się nie będzie" (czeski), 17—18, „Tytoń" (bułg.), 19—20. „Dzwonić Nordside 777" (USA), 21—22.

**Мілейчыцы**
„Odraza" (węgierski), 17—18. „Między linami ringu" (USA), 19—20. „Ubranie prawie nowe" (polski), 21—22.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Gangster i urzędnik" (USA), 17-18. „Tomasz - oszust" (franc.), 19—20. „Dzwony dla bosych" (czeski), 21—22.

**Шудзялава**
„Dworek 4-ech dziewcząt" (węgierski), „Kanciarze i spółka akcyjna" (angl.), 18—22.

**Сідра**
„Bambi" (USA), 17—18. „Alibi nie wystarczy" (czeski), 19—20 „Okno na Lunapark" (włoski), 21—22.

**Сухаволя**
„Kochankowie z Marony" (polski), „Czternaście dni" (jugosł.), 18—22.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Cisza! Na sali operacja" (radz.), 21—22

**Ліпск**
„Olbrzym" (USA), „Fatalny list" (angl.), 21—22.

**Ніва**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP ;Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 6.683 Błtk. N-1

